**№189 (2002)**

Пятніца , 8 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +11...+13, сонечна, уначы — +7...+9, дождж; у Брэсце ўдзень — +12...+14, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +12...+14, без ападкаў, уначы — +6...+8, дождж; у Віцебску ўдзень — +10...+12, сонечна, уначы — +6...+8, дождж; у Гомелі ўдзень — +11...+13, без ападкаў, уначы — +10...+12, дождж; у Магілёве ўдзень — +12...+14, сонечна, уначы — +7...+9, дождж.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## Мінгарвыканкам дазволіў дэпутату С.Скрабцу правесці 10 кастрычніка мітынг у парку Дружбы народаў

Мінгарвыканкам дазволіў дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з групы "Рэспубліка" Сяргею Скрабцу правесці 10 кастрычніка з 14.00 да 19.00 мітынг у парку Дружбы народаў — у раёне плошчы Бангалор.

Як паведаміў БелаПАН С.Скрабец, у сваёй заяве ён узгадаў, што на мітынгу будуць абмяркоўвацца "праблемы палітычнага і сацыяльна-эканамічнага становішча Рэспублікі Беларусь".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Ультыматум — апошні аргумент

Пасля ультыматуму работнікаў Брэсцкай фабрыкі сувеніраў — не браць удзелу ў рэферэндуме і выбарах у парламент, які яны прад'явілі кіраўніцтву прадпрыемства на мінулым тыдні, ім былі выплачаны даплаты за выслугу гадоў, сумяшчэнне пасад, за складанасць і напружанасць працы.

З ліпеня рабочым і ІТР гэтыя даплаты былі адменены

Сярэдняя зарплата на фабрыцы без уліку падаткаў складае 165 тысяч рублёў. Але, напрыклад, у жніўні інкрустатар з 27-гадовым стажам атрымаў на рукі 92 тысячы рублёў, токар — 53 тысячы. Гэта вылілася ў масавую незадаволенасць. Пасля перамоў калектыву са спецыяльнай камісіяй, у складзе якой былі прадстаўнікі Кіраўніцтва справамі прэзідэнта і інспекцыі па працы, работнікі Брэсцкай фабрыкі сувеніраў атрымалі даплаты за ліпень. Пытанне аб аналагічных выплатах за наступныя месяцы пакуль адкрыта.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## 75—77 працэнтаў тэлеэфіру займае Лукашэнка

Сюжэты і праграмы, звязаныя з прэзідэнтам, займаюць 75—77 працэнтаў тэлеэфіру, прысвечанага выбарам і рэферэндуму. Пра гэта гаворыцца ў другім прамежкавым дакладзе па назіранні за ходам перадвыбарнай кампаніі ў Беларусі, які прадставіла місія Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Людміле Гразновай — папярэджанне

Акруговая камісія 110-й Партызанскай выбарчай акругі Мінска вынесла папярэджанне намесніку старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП), кандыдату ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Людміле Гразновай.

У інтэрв'ю БелаПАН Л.Гразнова расказала, што папярэджанне ёй вынесена за "абразу, паклёп і распальванне сацыяльнай варожасці". Членам акруговай камісіі, у прыватнасці, не спадабаўся змест улётак Л.Гразновай. У сваім звароце да маладых людзей кандыдат у дэпутаты заклікала іх не ўдзельнічаць у датэрміновым галасаванні па выбарах і рэспубліканскім рэфэрэндуме, бо іх выбарчыя бюлетэні могуць быць падменены. Гэтае выказванне, паводле слоў Л.Гразновай, камісія ўспрыняла як недавер да ўласнай працы. Акрамя таго, камісія палічыла, што ва ўлётцы ўтрымліваецца заклік галасаваць супраць пытання, вынесенага на рэспубліканскі рэферэндум прэзідэнтам. "Я лічу гэта абсалютна незаконным. Заканадаўствам дазволена агітаваць як "за", так і "супраць" рэферэндуму", — заявіла Л.Гразнова.

Паводле слоў палітыка, папярэджанне яна абскардзіць у Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Найбліжэйшае пасяджэнне Цэнтрвыбаркама адбудзецца 8 кастрычніка.

## Цэнтрвыбаркам супраць пашырэння правоў назіральнікаў за выбарамі і рэспубліканскім рэферэндумам

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў адхіліла праект пастановы, які прапанаваў прадстаўнік ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Міхаіл ПЛІСКО**.

Эксперт, у прыватнасці, прапанаваў даць назіральнікам права азнаямлення са спісамі выбаршчыкаў. Аднак члены Цэнтрвыбаркама з правам голасу палічылі, што не могуць гэтага зрабіць, бо правы назіральнікаў выразна прапісаны ў 13-м артыкуле Выбарчага кодэкса. Паводле слоў члена ЦВК **Надзеі КІСЯЛЁВАЙ,** Цэнтрвыбаркам не мае права прадастаўляць назіральнікам дадатковыя правы, не прадугледжаныя выбарчым заканадаўствам. Назіральнікам жа яна параіла даведвацца аб колькасці выбаршчыкаў, якія прыйшлі на выбары, з копій выніковых пратаколаў, якія павінны вывешвацца на ўчастках для галасавання.

Член ЦВК з правам дарадчага голасу ад Партыі БНФ **Алесь БЯЛЯЦКІ** зазначыў, што адмова камісій прадастаўляць назіральнікам спісы для галасавання не адказвае прадэклараванаму ў кодэксе прынцыпу адкрытасці выбарчага працэсу. На гэта старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія ЯРМОШЫНА** запярэчыла, што кожны грамадзянін мае права пераканацца, ці ёсць ён у спісе для галасавання, а даведацца, ці ёсць у спісе сусед, ужо не мае права. Гэтая норма, на думку Л.Ярмошынай, цалкам адпавядае патрабаванням выбарчага заканадаўства.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**ТЭМА ДНЯ**

# Вырашальны выбар

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ, намеснік старшыні Партыі БНФ**

Не дазваляйце нікому казаць вам, што гэтыя выбары і рэферэндум не маюць значэння. Не дазваляйце нікому казаць, што ваш голас нічога не вырашыць. Не дазваляйце нікому казаць, што ўсе палітыкі аднолькавыя.

17 кастрычніка мы будзем вырашаць, ці жадаем мы жыць у свабоднай і незалежнай Беларусі.

17 кастрычніка мы будзем вырашаць, ці жадаем мы лепшага жыцця.

17 кастрычніка мы будзем вырашаць, колькі яшчэ мы гатовы трываць.

Часам можна пачуць меркаванні, што на выбары і рэферэндум ісці не трэба, бо, маўляў, "усё роўна падмануць". Такая пазіцыя памылковая і нават шкодная. Па-першае, не прыходзячы на выбарчы ўчастак, вы не ўскладняеце, а спрошчваеце фальсіфікацыю: выкрасліць ваша прозвішча са спісу выбаршчыкаў значна прасцей, чым праводзіць маніпуляцыі з вашым бюлетэнем. Няма выбаршчыка, няма бюлетэня — няма праблемы (магчыма, камісіі проста агучаць патрэбныя лічбы, а самі бюлетэні нават не будуць лічыць, але ў гэтым выпадку іх тым больш не будзе турбаваць, прагаласавалі вы ці не).

Па-другое, ваш голас супраць змен Канстытуцыі, ваша "НЕ" Лукашэнку на рэферэндуме — значна больш важны грамадскі ўчынак, чым сядзенне ў хаце ў дзень выбараў. Шмат для каго такі ўчынак стане першым крокам па-за межы страху, апатыі і безнадзейнасці, першым крокам да лепшага жыцця.

Па-трэцяе, чым больш людзей 17 кастрычніка прыйдзе і скажа Лукашэнку "НЕ", чым больш людзей прагаласуе за дэмакратычных кандыдатаў, тым больш відавочным будзе падман, калі камісіі на яго пойдуць, тым большымі будуць абурэнне і незадаволенасць людзей, тым большая колькасць сяброў камісій убачыць, наколькі нізкая падтрымка цяперашняга рэжыму ў беларускім грамадстве. І тым большым будзе для Лукашэнкі кошт перамогі. Трэба зрабіць так, каб "перамога" на рэферэндуме стала для Лукашэнкі піравай перамогай.

Добра ўсведамляючы, што выбары і рэферэндум не будуць ні свабоднымі, ні справядлівымі, мы працуем сёння з максімальнай аддачай, працуем на перамогу. Нам цяжка разлічваць на большасць у наступным парламенце, але мы перакананы — перамога ў кожнай асобнай акрузе магчымая. Сістэма фальсіфікацый можа даць збой (і такія збоі ўжо адбываюцца: кандыдатаў ад Партыі БНФ і іншых дэмакратычных сіл то жорстка "рубяць" на рэгістрацыі, то аднаўляюць; выступы ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі то спрабуюць адцэнзураваць, то прапускаюць у поўным аб'ёме; пікеты то забараняюць, то дазваляюць). Розныя — ад міжнародных да проста чалавечых — фактары могуць скласціся так, што кандыдат ад Партыі БНФ пераадолее ўсе перашкоды ўладаў і стане дэпутатам. Будзе недаравальна, калі мы сёння складзём рукі і не будзем нічога рабіць ці рабіць фармальна, а пасля зразумеем, што шанц быў, але мы ім не скарысталіся, бо не верылі і не спадзяваліся на такія абставіны. Таму давайце клапаціцца аб тым, каб мы рабілі тое, што мусім, рабілі ўсё, што мы здольныя зрабіць.

### Выбар каштоўнасцяў

Выбары 17 кастрычніка — гэта перадусім выбар каштоўнасцяў. Нашы каштоўнасці, каштоўнасці Партыі БНФ — свабода і адказнасць, вольны рынак і прыватная ініцыятыва, моцная незалежная Беларусь — адпавядаюць жаданням і патрэбам большасці беларусаў. Нашы каштоўнасці і перакананні важныя сёння, як ніколі. Яны — не проста словы, што трапляюць у палітычныя прамовы падчас выбарчых кампаній. Гэтыя каштоўнасці рэалізуюцца ў нашых справах.

Дзяржаўныя газеты, тэлебачанне і радыё з раніцы да вечара распавядаюць людзям казкі пра росквіт краіны, пра свабодных беларусаў і адказную ўладу.

Пра якую моцную і квітнеючую Беларусь можа казаць цяперашняя ўлада, калі большасць сем'яў ледзьве могуць пракарміць адно дзіця, калі пенсіянеры жывуць на мяжы жабрацтва, калі настаўнікі працуюць па 30 ці болей гадзін у тыдзень, каб неяк звесці канцы з канцамі, а сістэма аховы здароўя не можа забяспечыць патрэбаў грамадства?

Пра якую сапраўдную незалежнасць можна казаць сёння, калі міжнародныя кантакты нашай дзяржавы вельмі абмежаваныя, калі краіна прывязаная фактычна да аднаго пастаўшчыка паліва і да аднаго рынку збыту, калі закрываюцца беларускія школы і нішчыцца беларуская мова, а нацыянальная сімволіка па-за законам?

Пра якую свабоду можа весціся гаворка, калі сваю незадаволенасць уладамі можна выказаць толькі шэптам на ўласнай кухні, інакш рызыкуеш атрымаць штраф памерам у гадавы заробак ці трапіць на нары, калі сродкі масавай інфармацыі — пад татальным кантролем дзяржавы і сталі сродкамі масавай прапаганды, калі актывісты Партыі БНФ ды іншых дэмакратычных партый страчваюць працу за ўдзел у выбарах, а ўсіх працоўных прымусова пераводзяць на кантракты?

Хіба можна назваць праявай адказнасці, калі адмяняюцца льготы інвалідам, калі шматдзетныя сем'і не атрымліваюць належнай дапамогі ад дзяржавы, калі пенсіянеры большую частку сваіх грошай павінны аддаваць за кватэру?

Як можна гаварыць пра спрыянне малому і сярэдняму бізнесу, калі распачаць сваю справу сёння вельмі складана і дорага, калі падаткі, кошт ліцэнзій і арэнднай платы вельмі высокія, калі няма належных гарантый прыватнай уласнасці?

Колькі яшчэ мы гатовы трываць?

Улады кажуць сёння: дайце нам яшчэ час, дайце нам яшчэ адзін шанц выканаць свае абяцанні. Але яны не заслугоўваюць яшчэ аднаго шанца. Беларусь вартая іншага ўрада. Урада, які будзе працаваць для людзей.

### Чаму менавіта Партыя БНФ?

Я сцвярджаю сёння, што менавіта дэпутат ад Партыі БНФ будзе найлепшым чынам прадстаўляць вашы інтарэсы ў парламенце. Чаму?

Па-першае, Партыя БНФ — гэта партыя каштоўнасцяў. У нашых шэрагах няма і ніколі не было кар'ерыстаў, якія прагнуць улады дзеля ўлады. Кожны з нашых кандыдатаў ужо шмат гадоў самаахвярна працуе ў партыі, і гэта лепшая гарантыя таго, што ён не здрадзіць вам, не здрадзіць вашым каштоўнасцям.

Па-другое, Партыя БНФ — гэта партыя спраў. Нашы актывісты, нават не маючы ўлады, дапамагаюць сёння людзям па ўсёй краіне вырашаць канкрэтныя мясцовыя праблемы.

Па-трэцяе, Партыя БНФ — гэта партыя прафесіяналаў. Мы маем сёння распрацаваныя нашымі спецыялістамі рэалістычныя і выканальныя праграмы развіцця краіны: уздым эканомікі, забеспячэнне парадку і нацыянальнай бяспекі, дзяржаўнае будаўніцтва, рэформа сістэмы адукацыі, арганізацыя эфектыўнага міжнароднага партнёрства з нашымі суседзямі і краінамі Захаду, прыцягненне ў краіну інвестыцый.

Партыя БНФ заўсёды гаворыць людзям праўду, паслядоўна бароніць беларускія інтарэсы. Партыя БНФ гатова кіраваць краінай на карысць усім грамадзянам Беларусі.

Калі вы верыце ў свабоду;

калі вы верыце ў адказную ўладу;

калі вы верыце ў ініцыятыву людзей і вольны рынак;

калі вы верыце ў наш народ;

калі вы сумленна працуеце і імкнецеся забяспечыць дабрабыт сваёй сям'і;

калі вы верыце ў моцную незалежную Беларусь,

пойдзем з намі, і мы вернем вам вашу краіну!

## Венецыянская камісія Савета Еўропы разгледзіць правамернасць правядзення рэферэндуму ў Беларусі

*Венецыянская камісія Савета Еўропы разгледзіць правамернасць правядзення рэферэндуму ў Беларусі на чарговай сесіі 8-9 кастрычніка, паведамляе прэс-служба Савета Еўропы.*

На аснове прапановы старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Пітэра Шыдэра, Венецыянская камісія, куды ўваходзяць эксперты ў галіне міжнароднага права, разгледзіць пытанне аб адпаведнасці міжнародным прававым нормам рэферэндуму, які павінен прайсці ў Беларусі 17 кастрычніка сумесна з выбарамі ў парламент.

Як раней паведамляў БелаПАН, 4 кастрычніка на чарговай сесіі ПАСЕ П.Шыдэр выказаў заклапочанасць ходам перадвыбарнай кампаніі ў Беларусі. Ён заклікаў беларускія ўлады "зрабіць усё магчымае для правядзення свабодных і сумленных выбараў".

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Бюлетэні для галасавання на рэферэндуме будуць захоўвацца ўсяго толькі паўгода пасля галасавання

*Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў зацвердзіла парадак захоўвання дакументацыі па рэспубліканскім рэферэндуме, што прызначаны на 17 кастрычніка.*

Як паведаміла, прадстаўляючы праект, член Цэнтрвыбаркама **Надзея КІСЯЛЁВА,** пастановай прадугледжана, што пратаколы пасяджэнняў Цэнтральнай камісіі і дакументы да іх падлягаюць захоўванню ў ЦВК на працягу 15 гадоў, а пасля перадаюцца на захоўванне ў Нацыянальны архіў Беларусі.

Пратаколы пасяджэнняў і дакументы да іх абласных і Мінскай гарадской камісій па рэферэндуме павінны захоўвацца ў адпаведных абласных выканкамах і Мінгарвыканкаме на працягу 10 гадоў, а затым перадаюцца на захоўванне ў адпаведныя дзяржаўныя архівы.

Пратаколы пасяджэнняў раённых камісій па рэферэндуме будуць захоўвацца ў мясцовых адміністрацыях на працягу 5 гадоў, участковых камісій — на працягу 4 гадоў, а затым будуць знішчацца.

Самым хуткацечным будзе лёс бюлетэняў для галасавання на рэферэндуме. Яны будуць захоўвацца ўсяго паўгода пасля дня галасавання, а затым будуць знішчаныя.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ**

## Сюжет для Альфреда Хичкока

**Председателю Центральной избирательной комиссии Беларуси по выборам и проведению республиканских референдумов Л.М. Ермошиной**

**Копия: редакции газеты "Народная воля"**

Уважаемая Лидия Михайловна!

Отвечая на вопросы журналистов "Народной воли" (газета от 20 июля 2004 года), Вы сказали, что Вам ничего не известно о "принудительном загоне" студентов на досрочное голосование, как это было во время всех предыдущих выборов. Думаю, Вы говорили искренне, потому что студенты подвергались не буквально "принудительному загону", а изощренной психологической обработке. Вроде той, о которой можно узнать из фильмов Альфреда Хичкока, — страшнее опасности бывает ее ожидание.

Полагаю, для повышения Вашей квалификации не лишним будет узнать, что в эти дни в Белорусском национальном техническом университете (БНТУ) проходит активная работа по организации досрочного голосования иногородних студентов. Согласно составленным в деканатах спискам, им предписано в определенное время с 12 по 15 октября явиться на избирательные участки. Управляют этим процессом представители ректората, один из которых посетовал, что ничего, мол, не поделаешь, ведь он и его коллеги подневольные люди.

А студенты запуганы. Они спрашивают, как с ними поступят, если они будут руководствоваться положениями Конституции и законов Республики Беларусь, а не "мудрыми" советами униженных властью университетских и факультетских руководителей. Актуальная для современной Беларуси дилемма, не правда ли? И рядовые преподаватели не забыты. Им тоже следует поучаствовать в упрочении "административного ресурса". Из времен советского застоя вернулись такие рекомендации — "Повысить личную ответственность преподавателей за проведение голосования среди студентов такого-то факультета". Значит, и местные студенты не забыты. Словом, всех принуждают к проявлению доброй воли. Если это делает не возглавляемая Вами Комиссия, то какая организация или группа людей? Это первый вопрос.

А вот и другой, вполне естественный вопрос. Как происходящее в БНТУ согласуется со следующими положениями Конституции Республики Беларусь — "Выборы являются свободными: избиратель лично решает, участвовать ли ему в выборах и за кого голосовать", "Проведение выборов обеспечивают избирательные комиссии..." и "Референдумы проводятся путем всеобщего, свободного, равного и тайного голосования"?

Надеюсь, Вы дадите исчерпывающие разъяснения по существу данного обращения и ответите на заданные в нем вопросы.

**Дмитрий Дорианович ЖУКОВ,**
**доцент Белорусского национального технического университета.**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

## Когда будет суд над Рыбаковым?

**На этот вопрос по-прежнему не отвечают в Верховном суде Республики Беларусь**

Как уже неоднократно сообщала "Народная воля", известно, что дело бывшего председателя Национальной государственной телерадиокомпании **Егора Рыбакова** уже передали конкретному судье. Однако назвать его фамилию в Верховном суде категорически отказываются. Как и дату, когда начнется судебное разбирательство.

*"По распоряжению "сверху" нам настоятельно рекомендовано пока не сообщать **никакой** информации по делу Рыбакова в прессу"*, — сказал один ответственный работник Верховного суда, пожелавший остаться неизвестным. Он также не исключил, что судебный процесс над Рыбаковым может быть закрытым.

Напомню, что Егор Рыбаков был освобожден от должности председателя НГТРК 13 февраля 2004 года. Ему предъявлено официальное обвинение в получении взяток в крупном размере. Пресс-служба президента со ссылкой на генерального прокурора Беларуси **Виктора Шеймана** сообщила, что ***"прокуратурой по делу изъято денежных средств на сумму свыше 500 тысяч долларов"*** (хотя, говорят, сегодня речь идет о гораздо большей цифре).

С февраля 2004 года бывший высокопоставленный чиновник содержится в СИЗО КГБ. Пока ему "светит" от 7 до 15 лет.

Откровенно говоря, позиция Верховного суда в отношении Е.Рыбакова не совсем понятна. Как известно, у нас судопроизводство гласное. А гласность, как справедливо отмечают юристы, означает не только возможность людей присутствовать на открытых судебных заседаниях, но и возможность получать информацию о том, какие дела находятся в производстве суда и кто эти дела ведет. И почему именно из дела Рыбакова делают такую тайну? Когда, например, речь шла о судебных слушаниях по делам экс-гендиректора Минского тракторного завода **Михаила Леонова** или экс-руководителя Белорусской железной дороги **Виктора Рахманько** — подобных вопросов вообще не возникало.

Государственные средства массовой информации тоже молчат о деле Рыбакова. Ничего не сообщают и о судьбе экс-управляющей делами президента **Галины Журавковой** — в недалеком прошлом, между прочим, очень влиятельной чиновницы, перед которой расшаркивались даже генералы. Когда над ней состоится суд? И состоится ли вообще?..

А может, и Рыбаков, и Журавкова уже давно "помилованы" тем, кого отдельные "губернаторы" считают *"даже выше Бога"*?

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**
**Коллаж Александра СИЛИЧА.**

**КЛІНІКА**

## Мёртвыя душы

*Мікалай Васільевіч Гогаль перавярнуўся бы ў труне, калі б даведаўся, што бясцэнны "прадпрымальніцкі" вопыт яго героя Паўла Чычыкава з "Мёртвых душаў", які бессаромна папаўняў свой капітал за кошт памерлых сялян, будзе запатрабаваны на пачатку XXI стагоддзя ў еўрапейскай Беларусі. Падобна на тое, што ўжо не грашовы, як у часы Гогаля, а палітычны капітал зарабляюць сёння дзяржаўныя структуры, якія заняты падрыхтоўкай да рэспубліканскага рэферэндуму і выбараў у Палату прадстаўнікоў, у прыватнасці, Цэнтральная выбарчая камісія (ЦВК) і яе рэгіянальныя структуры.*

Наша газета ўжо паведамляла пра запрашэнне апературу ГРТ Зміцеру Завадскаму прыйсці на выбарчы ўчастак, якое днямі атрымалі яго сваякі. Нагадаем, што журналіст Зміцер Завадскі бясследна знік 7 ліпеня 2000 года ў раёне Нацыянальнага аэрапорта "Мінск", а летась у судовым парадку наогул быў прызнаны памерлым. Супрацоўнікі акруговай выбарчай камісіі могуць толькі сабе ўявіць той шок, якому яны падверглі сваякоў зніклага журналіста, у чарговы раз нагадваючы ім пра вялікае гора.

Акты цынізму з боку выбарчых камісій працягнуліся і далей: стала вядома, што і на адрас былога старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара, які разам з бізнесменам Анатолем Красоўскім быў скрадзены 16 верасня 1999 года, таксама прыйшло запрашэнне наведаць выбарчы ўчастак і прыняць удзел у выбарах і рэферэндуме.

*"За пяць гадоў, што прайшлі з моманту знікнення майго мужа, я ўжо звыклася атрымоўваць разнастайныя паперкі на яго імя,* — паведаміла ў інтэрв'ю "Народнай волі" жонка Віктара **Зінаіда Ганчар.** — *Мяне здзіўляе: альбо людзі абсалютна нічым не цікавяцца, альбо робяць усё гэта мэтанакіравана. І ў гэтым годзе, і ў мінулыя гады я атрымлівала запрашэнні на імя Віктара прыйсці на выбары. Як на гэта рэагаваць? Усё гэта выклікае ў мяне толькі горыч. Я лічу, што гэта сведчыць і пра тое, што ў прынцыпе ніхто спісамі выбаршчыкаў не цікавіцца. Не цікавіцца па той простай прычыне, што наверсе ўсё ўжо даўно вырашана... Мёртвымі душамі на ўчастках ніхто ніколі раней не займаўся..."*

У жыллёва-эксплуатацыйнай службе, — лічыць З Ганчар, — не могуць не ведаць, што Віктар Ганчар лічыцца без вестак зніклым. Пра гэта яна не раз інфармавала ЖКГ, апошні раз - на пачатку года, калі чыноўнікі спрабавалі выклікаць Віктара Ганчара ў суд быццам за няўплату жылля. І менавіта жыллёва-камунальныя службы, як лічаць спецыялісты, пастаўляюць у выбарчыя камісіі звесткі, на падставе якіх складаюцца спісы выбаршчыкаў...

Цікавы і, адначасова, не сумяшчыяльны са здаровым сэнсам выпадак на гэтую ж тэму, як паведаміла адна з нашых сталых чытачак, адбыўся днямі ў Мінску. Суседцы нашай чытачкі патэлефанавалі з акруговай выбарчай камісіі і запрасілі прыйсці на выбарчы ўчастак і прагаласаваць "за Беларусь". Запрасілі не адну, а разам з маці Баярынай Аляксандрай Іванаўнай, якая ... памерла яшчэ дзевяць гадоў таму. Можаце сабе ўявіць стан беднай жанчыны, якую ледзь не давялі да сардэчнага прыступу? Наша чытачка вырашыла заступіцца за пакрыўджаную суседку, і таму патэлефанавала сакратару Цэнтральнай выбарчай камісіі **Мікалаю Лазавіку**. Мікалай Іванавіч аказаўся асобай амаль віртуальнай: спачатку ў тэлефоннай трубцы апарата, нумар якога надрукаваны ў даведніках чулася, "што вы не туды трапілі", а потым па гэтым нумары наогул ніхто не здымаў трубку, альбо ўключаўся факс.

Тады настойлівая жанчына праз свае асабістыя інфармацыйныя каналы высветліла мабільны тэлефонны нумар сакратара ЦВК і патэлефанавала яму зноў. Размова атрымалася прыкладна такой:

— Мікалай Іванавіч, вас турбуюць з таго свету. Я, Аляксандра Іванаўна Баярына, памерла дзевяць гадоў таму. І вось зараз мяне непакояць і запрашаюць на выбарчы ўчастак...

— (Паўза на тым канцы трубкі). Адкуль вы ведаеце мой мабільны нумар?

— Як гэта адкуль? З таго свету!

Тэлефонная трубка Чычыкава... прабачце, Лазавіка, недвухсэнсоўна адказала кароткімі гудкамі....

Гандаль мёртвымі душамі працягваецца? Да рэферэндуму засталося 8 дзён.

**Алесь СІЛІЧ.**

ПУЛЬС

## Пацяплела! Але не для ўсіх

6 кастрычніка ўключана ацяпленне ў дзіцячых дашкольных установах і школах Мінска. Цяпло паступіла таксама ў лячэбна-прафілактычныя ўстановы, дзіцячыя дамы і дамы дзіцяці, спальныя карпусы школ-інтэрнатаў, дамы састарэлых, інтэрнаты прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, грамадскія лазні, будынкі архіваў і музеяў, харэаграфічны каледж і музычнае вучылішча імя Глінкі. Адпаведнае рашэнне прыняў напярэдадні Мінскі гарвыканкам.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры гарвыканкама, у жылых дамах паэтапна ўключаць ацяпленне традыцыйна пачнуць пасля таго, як на працягу пяці дзён запар сярэднесутачная тэмпература паветра не перавысіць 8 градусаў цяпла.

Летась у сацыяльныя ўстановы сталіцы цяпло паступіла 9 кастрычніка, жылыя дамы — 14 кастрычніка.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Аматары піва, вам крышка!

*З 10 кастрычніка па 1 снежня пройдзе спецыяльная акцыя пад назвай "Поспех чакае цябе пад крышкай".*

Як паведамілі карэспандэнту "Народнай волі" ў аддзеле маркетынгу ААТ "Крыніца", каб прыняць удзел у розыгрышы прызоў, дастаткова купіць звычайную шкляную бутэльку піва з этыкеткай, на якой будзе напісана "Акцыя", і зазірнуць пад яе крышку. Малюнкі лічбавага фотаапарата, мабільнага тэлефона альбо піўнога куфаля азначаюць, што вы сталі ўладальнікамі прыза.

Дарэчы, усяго будзе разыграна 5 лічбавых фотаапаратаў, 50 мабільных тэлефонаў і 5000 куфляў. Атрымаць прызы можна будзе ў спецыяльных пунктах іх выдачы.

**Алесь СІВЫ.**

## Усе — лішнія

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Беларусі аб'явіла аб спыненні тэндэру на атрыманне ліцэнзіі трэцяга аператара мабільнай сувязі ў краіне.

У афіцыйным паведамленні прадстаўнікі міністэрства тлумачаць спыненне тэндэру наступным чынам: "Улічваючы неабходнасць у паслугах сотавай сувязі GSM на ўсёй тэрыторыі Беларусі, даступных для ўсіх слаёў насельніцтва, кіраўніцтва краіны прыняло рашэнне аб стварэнні трэцяй сеткі сотавай сувязі стандарта GSM са стопрацэнтным дзяржаўным капіталам".

У паведамленні таксама зазначана, што "праект стварэння на тэрыторыі краіны трэцяй сеткі сотавай сувязі стандарта GSM будзе сацыяльна скіраваным і арыентаваным у першую чаргу на паслугі сотавай сувязі малазабяспечаным слаям насельніцтва і жыхарам сельскіх раёнаў".

Да стварэння трэцяй сеткі сотавай сувязі стандарта GSM беларускі дзяржаўны аператар прыступіць ужо на пачатку 2005 года. Неўзабаве будзе створана дзяржаўная арганізацыя, якая стане трэцім GSM-аператарам, паведамляе Мінсувязі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Беларуская дзіва каштуе 10 тысяч долараў

Пачаўся адборачны тур сярод удзельніц фестывалю "Дзіва Белая Русь", што пройдзе 20 лістапада ў Мінску.

Як паведаміла БелаПАН піяр-менеджэр фестывалю **Таццяна СУЛІМАВА**, для ўдзелу ў фестывалі запрашаюцца жанчыны, якія рэалізавалі сябе ў розных сферах жыцця.

Паводле яе слоў "Дзіва Белая Русь" — не конкурс прыгажосці ў традыцыйным яго разуменні. Хаця, апроч элегантнасці, таленту, дасціпнасці, прывабнасці і іншых якасцей, для ўдзелу ў фестывалі пажаданы добрыя знешнія даныя, а таксама фізічныя параметры, набліжаныя да класічных.

Сярод мэтаў фестывалю — папулярызацыя Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне, магчымасць для насычаных дзелавых і культурных зносін паміж жанчынамі розных прафесій і сацыяльных статусаў, правядзенне дабрачынных акцый.

Пераможца фестывалю будзе абрана прафесійным журы, у склад якога ўвойдуць аўтарытэтныя дзяржаўныя дзеячы і прадстаўнікі культуры. Яна атрымае тытул "Дзіва Белая Русь", галоўны прыз фестывалю — 10.000 долараў ЗША і права прадстаўляць Беларусь на міжнародным конкурсе паспяховых жанчын, якая пройдзе ў Кіеве ў снежні гэтага года.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Беларуская асацыяцыя журналістаў намініравана на прэмію за свабоду думкі імя Сахарава

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) намініравана на еўрапейскую прэмію за свабоду думкі імя Сахарава, паведамляе прэс-служба Еўрапарламента.

5 кастрычніка падкамітэт па правах чалавека парламента Еўрасаюза вызначыў тройку прэтэндэнтаў на гэтую прэмію, якія будуць прадстаўлены на разгляд Савета прэзідэнтаў Еўрапарламента. Гэты Савет і вызначыць пераможцу. Уручэнне прэміі імя Сахарава адбудзецца 14 снежня на парламенцкай сесіі ў Страсбургу.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## На турніры ў Ліёне Максім Мірны выбыў у другім крузе адзіночнага разраду, але выйшаў у паўфінал парнага

На турніры серыі Асацыяцыі тэнісістаў-прафесіяналаў у Ліёне (прызавы фонд 791.750 еўра) Максім Мірны прайграў у 1/8 фіналу адзіночнага разраду. У трох сетах 6 кастрычніка ён саступіў шведу Ёнасу Б'ёркману — 7:6 (7:3), 6:7 (5:7), 4:6. Адметна, што шведскі тэнісіст на папярэднім этапе з такім жа лікам перамог іспанца Альберта Косту.

Затое дуэт Мірны / Махеш Бхупаці (Індыя) выйшаў у паўфінал парнага разраду. Учора беларуска-індыйская пара перайграла Дамініка Хрбаты (Славакія) / Іахіма Юхансана (Швецыя) — 4:6, 6:4, 6:3. У 1/2 фіналу Мірны / Бхупаці згуляюць з пераможцам матчу Джанатан Эрліх / Эндзі Рам (Ізраіль) — Жульен Бенето / Нікаля Маху (Францыя). Дарэчы, летась паядынак паміж ізраільцянамі і французамі быў фінальным. Перамаглі Эрліх / Рам.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## «Ляпіс Трубяцкой» і «Каралева бензакалонкі-2»

Музыканты гурта "Ляпіс Трубяцкой" зняліся ў фільме "Каралева бензакалонкі-2" — сучаснай версіі знакамітай савецкай кінастужкі 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Праца над карцінай праходзіла ва Украіне.

Як паведамляе афіцыйны сайт гурта "Ляпіс Трубяцкой", у галоўных ролях у карціне пад кіраўніцтвам расійскага рэжысёра Ігара Мінаева зняліся Клара Новікава, Аляксандр Семчаў (таўстун з легендарнай піўной рэкламы "Ты дзе быў?"), фінскі акцёр Віле Хаапсала (здымаўся ў мастацкім фільме "Адметнасці нацыянальнага палявання", "Зязюля") і іншыя вядомыя расійскія акцёры. "Ляпісы" ж ігралі самі сябе. "Паводле сцэнарыя, мы ездзілі на крутым джыпе чорнага колеру з імянным нумарам "Бацька", але грошай у нас чамусьці не было, і мы расплачваліся за бензін выступленнем прама на бензакалонцы", — расказаў Сяргей Міхалок.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Сам папаўся...

Па абвінавачанні ў атрыманні хабару ў Гомелі затрыманы супрацоўнік мытні. Затрыманне правялі супрацоўнікі УБЭЗ па Гомельскай вобласці і ўласнай службы бяспекі мытні.

Як паведамілі БелаПАН ва УБЭЗ, супрацоўнік мытні абвінавачваецца ў тым, што за ўзнагароджанне бесперашкодна прапусціў груз цераз беларуска-ўкраінскую мяжу. Ён не ўзяў грошы ў перавозчыка грузу, а склаў спіс тавараў, якія б ён пажадаў набыць у адной з крам Гомеля. Работнік мытні быў затрыманы з доказамі, калі атрымаў тавары агульным коштам 400 тысяч рублёў.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Трохгадовая дзяўчынка згарэла

Трохгадовая дзяўчынка загінула днямі падчас пажару ў вёсцы Стадолічы Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

Паведамленне аб пажары было атрымана ў 13.30 цэнтрам аператыўнага ўпраўлення Лельчыцкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Дзіця, пакінутае без догляду бацькоў, знаходзілася ў палаючай пабудове адно.

Нягледзячы на аператыўнае прыбыццё ратавальнікаў, выратаваць дзяўчынку не ўдалося.

Паводле папярэдняй інфармацыі, пажар узнік з-за дзіцячых гульняў з агнём.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

КУМІРЫ

# Гэты невядомы вядомы Гарбук

*У рэпертуарным спісе народнага артыста Беларусі Генадзя ГАРБУКА больш за 100 роляў у тэатры і кіно. Ён — жывая легенда, бясспрэчны талент. І пры гэтым Гарбук — чалавек неверагоднай сціпласці.*

*У ліпені Генадзь Міхайлавіч адзначыў сваё 70-годдзе. Гэта стала добрай нагодай напрасіцца да яго ў госці ў тэатральную грымёрку Купалаўскага тэатра...*

Генадзь Гарбук у праекце "Плошча Перамогі". Ліпень 2004 года.

**— Генадзь Міхайлавіч, складваецца дзіўная сітуацыя: называю маладым прозвішча Гарбук — мала хто можа ўзгадаць такога акцёра. Але варта толькі назваць ролі — Пятрок у "Знаку бяды", старэйшы сын галоўнага героя фільма "Белыя Росы", глуханямы Лапатуха з "Чорнага замка Альшанскага", як людзі ўсклікаюць: "Дык гэта ж выдатны акцёр! Я добра яго ведаю!" Як Вы ўспрымаеце такую невядомую вядомасць?**

— Мяне ніколі не хвалявала такое паняцце, як вядомасць. Ёсць — добра, няма — ну што зробіш... Сёння я думаю, што такая пазіцыя ў нейкай ступені мне дапамагала. Калі б увесь час я ганарыўся тым, што мяне пазнаюць на вуліцах, хваляць крытыкі, калі б я вырашыў, што ўсё раблю выдатна, я б меней працаваў над сабою, спыніўся, перастаў мысліць. Калісьці ў тэатры ў п'есе Горкага "На дне" я іграў Акцёра. І ў майго героя былі такія словы: "Стары, ты ведаеш, што такое апладысменты? Гэта як гарэлка". Толькі ў сталым узросце я зразумеў сэнс гэтых здавалася б простых слоў: і апладысменты, і гарэлка — страшэнная атрута, якая можа згубіць. Чым больш п'еш, тым больш хочацца.

Дарэчы, вы правільна гаворыце пра сённяшніх маладых, што не ведаюць тэатральных "мэтраў". Цяпер у мяне не тая занятасць на сцэне, і новых роляў у кіно няшмат.

**— А вось нядаўна на Першым расійскім канале ішла прэм'ера — экранізацыя шукшынскіх апавяданняў. У фільме "Бессовестный" у Вас галоўная роля...**

— Фільм здымаўся два гады таму. Калі я атрымаў прапанову ад расійскага рэжысёра Аркадзія Аліфярэнкі, адразу пагадзіўся.

У мінулым годзе мне двойчы давялося здымацца ў Расіі. Яшчэ была роля бацькі галоўнага героя ў гістарычным серыяле "Паўночны сфінкс".

На "Беларусьфільме" таксама была праца. Здымаўся ў Вячаслава Нікіфарава. Фільм "На безымянной высоте" нядаўна паказвала НТБ. Але сапраўднай работы мала. З аднаго боку, прапановы ёсць, але матэрыял пасучаснаму модны — дэтэктыўна-крымінальны, чаго я не люблю. Глыбіннага, сур'ёзнага матэрыялу амаль няма.

**— Розніцу адчуваеце, калі здымаецеся ў Расіі і на радзіме?**

— Гэта нельга нават параўноўваць. Я надта сябе паважаю, каб здымацца за тыя абразлівыя капейкі, якія мне прапаноўваюць у Беларусі. Сёння ў нашым айчынным кіно, лічу, сітуацыя страшэнная. За здымачны дзень акцёру — народнаму, заслужанаму артысту Беларусі — прапаноўваюць 10 долараў! У Расіі ў маіх калег цудоўныя ўмовы — толькі займайся роллю.

На здымках шукшынскіх апавяданняў маімі партнёркамі былі бліскучыя зоркі — Людміла Гурчанка і Ада Рогаўцава. Здымкі адбываліся пад Масквою, мы жылі ў шыкоўным гатэлі. Увесь час на пляцоўцы панавала творчая атмасфера, працаваць было за шчасце.

**— Генадзь Міхайлавіч, ці ёсць у Вас ролі, якія лічыце падарункам лёсу?**

— Першая вялікая роля была яшчэ ў Віцебску, у Коласаўскім тэатры. Фёдар Іванавіч Шмакаў іграў галоўнага героя ў спектаклі па п'есе "Сеньёр Марыо піша камедыю", але яму трэба было ехаць на здымкі фільма. Мне прапанавалі яго замяніць, і амаль за тыдзень я вызубрыў тэкст...

А ў Мінску мне пашчасціла ўдвая — і ў Купалаўскім тэатры, і на тэлебачанні. Роля Васіля Дзятліка прынесла сапраўдную славу. У 1969 годзе спектакль "Людзі на балоце" прэтэндаваў на Дзяржаўную прэмію Савецкага Саюза. Праўда, канкурэнтам у нас быў Таўстаногаў са спектаклем "Мешчане". Прэмію, канешне, далі ім. Далі справядліва. А наш спектакль запісалі на Астанкіна. Запіс быў зроблены на вельмі прафесійным узроўні, і ён дзесьці захаваўся.

На Беларускім тэлебачанні, на жаль, такога запісу няма. Напэўна, ужо змылілі і тэлевізійную версію спектакля "Людзі на балоце". Шкада. Мне, між іншым, гэты варыянт больш падабаўся, чым кінаварыянт "Палескія хронікі", які зняў вядомы рэжысёр Віктар Тураў і за ролю Чарнушкі ў якім я атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

А ў кіно мая самая любімая роля — Лапатуха з "Чорнага замка Альшанскага".

**— А я была ўпэўнена, што вы ўзгадаеце "Знак бяды"...**

— Тое была мая першая вялікая роля ў кіно. І ў тым, што Лапатуха атрымаўся такім пераканаўчым, заслуга рэжысёра Міхаіла Пташука. Гэта была яго ідэя зрабіць Лапатуху глуханямым. Я памятаю сваю першую рэакцыю на прапанову Пташука. "Ты што? Што скажа Караткевіч?, — не змог стрымаць я эмоцыі. Я сябраваў з Уладзімірам Сямёнавічам і, безумоўна, хваляваўся, як ён паставіцца да такога смелага кроку. А Пташук мне адказаў: "Трэба, каб мы яго пераканалі".

Вы не можаце сабе ўявіць, якую неверагодную гордасць я адчуваў, калі мы паказалі фільм Караткевічу і ён сказаў: "Стары натуральны. Так і павінна было быць"...

Безумоўна, найважнейшая для мяне роля ў кіно — гэта Пятрок са "Знаку бяды".

**— Міхаіл Пташук у сваіх успамінах пісаў, што "Знак бяды" прынёс яму сусветную вядомасць, стаў візітоўкай у Еўропе. Што значыў для Вас гэты фільм?**

— Я павялічыў свой акцёрскі запас, бо матэрыял быў неверагодны. Я разумеў, што гэта мой шанц: альбо пан, альбо прапаў. Ужо пасля прэм'еры, на міжнародным кінафестывалі ў Югаславіі, Пташуку хтосьці з крытыкаў сказаў, што Пятрок у выкананні Гарбука — гэта як падручнік па сістэме Станіслаўскага. І я ганаруся гэтым несусветна.

"Знак бяды" мы здымалі пад Баранавічамі. Непадалёку ад горада быў выкуплены хутар, і пэўны час я жыў там, як Пятрок. Імкнуўся прызвычаіцца да сялянскага жыцця тых часоў, курыў толькі самасад. Пахудзеў амаль на 10 кілаграмаў.

Твор Быкава я ведаў напамяць. Менавіта не сцэнарый, а твор вялікага пісьменніка. І мне здаецца, што поспех фільма менавіта ў тым, што Пташук амаль ні на крок не адышоў ад арыгінала.

**— А як успрыняў Вашу працу Быкаў?**

— Васіль Уладзіміравіч ніколі не прыязджаў на здымачную пляцоўку, а паколькі мы не былі блізка знаёмы, то я не мог з ім сустрэцца яшчэ дзе-небудзь.

Праўда, пасля таго як "Знак бяды" выйшаў на шырокі экран, аднойчы я выпадкова сустрэўся з Быкавым у Мінску на плошчы Перамогі. Я пасаромеўся падысці да яго, аднак Быкаў сам мяне спыніў. Мы пагаварылі пра жыццё, але пра фільм Васіль Уладзіміравіч не сказаў ні слова. Можа, ён лічыў, што я "не дацягнуў", не змог перанесці на экраны той вобраз, які стварыў вялікі пісьменнік. Доўгі час мяне гэта хвалявала. І сёння таксама муляе...

**— Вашы героі — людзі з народа. У Вашым выкананні яны атрымліваюцца натуральнымі, сапраўднымі. Адкуль у Вас такое глыбіннае адчуванне народнага жыцця?**

— Напэўна, гэта ў крыві. Усе мае продкі — сяляне, пачынаючы з дзядоў — Васюка Лаўрэнція Ісакавіча і Гарбука Ануфрыя Іванавіча. Я нарадзіўся ў вёсцы Глыбачка Ушацкага раёна, скончыў школу ва Ушачах.

**— Ушачы багатыя на таленты. Быкаў, Барадулін, Гарбук...**

— З Рыгорам Барадуліным мы хадзілі ў адну школу і скончылі яе ў адзін год. Барадулін паступіў у БДУ, я — у тэатральны інстытут. Мы сябравалі. Праўда, потым, на вялікі жаль, жыццё нас развяло...

**— А хто з суайчыннікаў пакінуў найбольшы адбітак у Вашай душы?**

— Мой настаўнік — Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. Можа, калі б у мяне быў іншы педагог, дык мой лёс склаўся б інакш. Арлоў — карэнны масквіч, але ўсё жыццё самааддана працаваў на карысць беларускага тэатра. І вось я — сялянскі хлопец, за плячыма якога былі хіба што сотні прачытаных кніг і ўдзел у школьнай самадзейнасці, трапіў на яго курс.

Арлоў адразу заразіў мяне неверагоднай любоўю да тэатра і абудзіў любоў да працы. Ён увесь час паўтараў: "Навучыць быць акцёрам нельга, можна толькі навучыцца". Асабіста да мяне ён быў вельмі патрабавальны.

Я ўсё жыццё буду помніць першую рэакцыю Арлова на спектакль "Людзі на балоце". Калі спектакль ужо ішоў у Купалаўскім і водгукі калег і крытыкі былі самыя лепшыя, у тэатр прыйшоў Арлоў. Мая партнёрка Ліля Далідовіч — яна іграла Ганну — прыбегла да мяне ў грымёрку і спуджана зашаптала: "Генка, Арлоў у зале". Я на сцэну — паглядзеў у шчылінку: сапраўды сядзіць, і ў мяне таксама ўсё затрэслася ўнутры.

Я не бачыў рэакцыі Дзмітрыя Аляксеевіча, калі быў на сцэне. Потым, калі мы выйшлі на паклон, заўважыў, што ён шчыра пляскаў у ладкі. Пасля спектакля настаўнік падышоў да мяне, абняў за плечы і... нічога не сказаў. Папрасіў, каб я пазваў Лілю. Ёй ён таксама не сказаў ні слова... Толькі праз некалькі гадоў, калі аднойчы мы былі ў яго ў гасцях, Арлоў заўважыў, што роля Васіля — "гэта назаўсёды, гэта з'ява".

Арлоў і да сябе быў неверагодна патрабавальны. Я, на жаль, не бачыў яго на сцэне, але ведаю як ён ставіўся да сваіх роляў у кіно, як умеў пераўвасабляцца. Калі Дзмітрый Аляксеевіч здымаўся ў фільме "Гадзіннік спыніўся апоўначы", то так перажываў за ўчынкі свайго героя — гауляйтэра Кубэ, што трапіў у шпіталь. Як казаў сам, не вытрымала сэрца.

**— Вы ўзгадвалі, што сябравалі з Караткевічам...**

-- Можна сказаць, што я быў да яго дапушчаны. Я разумеў, побач з якім сучаснікам даводзіцца быць побач. Караткевіч быў вельмі просты, шчыры чалавек, я неаднойчы бываў у яго дома. Калі трапіў упершыню, быў уражаны незвычайным іканастасам у пакоі пісьменніка. У лік святых Уладзімір Сямёнавіч узвёў Кастуся Каліноўскага. Яго вялізны партрэт на ўсю сцяну панаваў над усім. А побач з карцінай гарэлі свечкі і стаялі кветкі...

Калі Караткевіч напісаў п'есу "Кастусь Каліноўскі", то адразу прынёс яе ў Купалаўскі тэатр. Але п'есу не прынялі і нават так зганьбілі, што Караткевіч сказаў: больш ніколі і нічога не прапаную Купалаўскаму тэатру. А ў нас, між іншым, у той час была вельмі моцная акцёрская трупа. Чыноўнікі ад культуры пазбавілі нас і гледача цікавага гістарычнага матэрыялу. Але тады былі такія часы. Савецкая ўлада насцярожана ставілася да Караткевіча, нават не дала яму звання народнага. На мой погляд, па магутнасці таленту, па працаздольнасці Караткевіча ў наш час не перасягнуў ніхто.

"Кастуся Каліноўскага", дарэчы, паставілі ў Віцебску, у Коласаўскім тэатры. І п'еса мела поспех.

**— Генадзь Міхайлавіч, Вы нязменна іграеце ў адным тэатры, вельмі зорным. Як удаецца ладзіць стасункі з калегамі, каб і з калектывам ужывацца, і ролі атрымліваць?**

— Я ніколі не выпрошваў ролі, не рабіў "левыя-правыя" захады, каб атрымаць тую ці іншую ролю. Даводзілася пагаджацца на тое, што прапаноўвалі рэжысёры. Калі прымаў ролю, то імкнуўся рабіць усё, што ў маіх сілах. І бывала нават, што атрымлівалася цукерка...

Я і сёння мог бы рабіць значна болей, чым мне прапаноўваюць. Я не адчуваю свае 70 гадоў. Можа таму, што больш за 20 гадоў займаюся ёгай дзве гадзіны кожны дзень, гімнастыкай...

Два гады таму мяне запрасіў у Тэатр беларускай драматургіі Валерый Анісенка. У мінулым сезоне адбылася прэм'ера па п'есе Андрэя Курэйчыка "Понцій Пілат". А ў гэтым — як падарунак да майго 70-годдзя, стала запрашэнне ў спектакль па п'есе Вампілава "Прошлым летам у Чулімску".

Ролі ў родным, Купалаўскім тэатры ёсць, аднак няма глыбокай, яскравай. Але, відаць, кіраўнікам відней...

**— Гэта спрэчнае пытанне... Дарэчы, як Вы ставіцеся да сучасных п'ес і новых пастановак? Каго з маладых акцёраў лічыце адоранымі, таленавітымі?**

— У нашым тэатры іх шмат. І Алег Гарбуз, і Святлана Зелянкоўская, і Юлія Шпілеўская, і Ірына Рымарава, і іншыя, усіх не пералічыць. Але мне здаецца, што яны яшчэ не вельмі гучна заяўляюць пра сябе, не поўнасцю раскрываюць свае магчымасці. На мой погляд, справа ў тым, што няма для іх роляў у тэатры, няма практыкі.

Майму пакаленню пашанцавала, да нас прыязджалі ставіць спектаклі расійскія рэжысёры — Шчарбакоў, Агамірзян, Броўкін, Радамыслінскі. Яны не маглі не задаваць планку.

Паглядзіце, хто вучыў нас! Мой настаўнік Дзмітрый Арлоў займаўся ў Аляксея Дзікага — аднаго з любімых вучняў Станіслаўскага. А наш зорны курс — Тарасаў, Аўсяннікаў, Захарэвіч, Талкачова — выхаванцы Канстанціна Саннікава...

Зразумела, што калі сёння ў тэатральным асяроддзі не будуць змены да лепшага, мы страцім апошняе, чым адметны беларускі тэатр.

**— Генадзь Міхайлавіч, народныя артысты Беларусі маюць сёння якія-небудзь ільготы?**

— Акрамя сваёй зарплаты я атрымліваю яшчэ надбаўку за званне — штомесяц тры базавыя велічыні. Гэта 57 тысяч. І больш нічога. Праўда, ёсць пенсія. Аднімі пенсію або зарплату, зубы прыйдзецца пакласці на паліцу.

Аднак і гэтыя крыніцы даходу — па сутнасці смешныя грошы. Я не магу дазволіць сабе адпачынак на моры, круіз за мяжу.

На мой погляд, жахлівае матэрыяльнае становішча вядзе да страты прафесійнага ўзроўню беларускага тэатра. Раней рэжысёры запрашалі акцёраў з абласных тэатраў, таленавітых выпускнікоў тэатральнага інстытута. Яны ведалі, што праз год-другі акцёры атрымаюць кватэру ў сталіцы. А сёння будзь ты хоць тысячу разоў геніем — купляй кватэру сам. І нікога не хвалюе, за якія грошы.

**— Генадзь Міхайлавіч, давайце пагаворым пра больш прыемнае. Вам заўсёды шчасціла на прыгожых партнёрак: Лілія Далідовіч, Ніна Русланава. Раманы ўзнікалі?**

— Яшчэ са студэнцкіх гадоў я вынес адну ісціну — партнёрка вышэй за ўсё. Холадна ёй — аддай шалік, голадна — аддай бутэрброд. Таму адносіны на здымачнай пляцоўцы нават з самымі прыгожымі акторкамі будаваліся па прынцыпе: праца вышэй за ўсё. Не болей таго...

**— Вашаму шлюбу з заслужанай артысткай Беларусі Галінай Яроменка амаль 40 гадоў. Як удаецца захаваць моцную сям'ю?**

— Я жыву дзякуючы ёй. Не было б побач Галіны, мог бы спіцца. У тэатры не раз узнікалі складаныя акалічнасці, а я — мяккі чалавек, не ўмею хлусіць, спрачацца, выкручвацца. Шукаў выйсце ў гарэлцы. А Галя — валявая жанчына, яна навучыла мяне арганізоўваць сябе, загартавала мой характар.

**— Генадзь Міхайлавіч, што адбываецца па-за тэатрам? Вашы суседзі па лецішчы расказвалі, што Гарбук — адзін з самых "заслужаных" бульбаводаў у кааператыве. Амаль усе вырошчваюць ружы, а вы па-ранейшаму — бульбу ды памідоры...**

— Бульба сапраўды ў мяне ого-го! Сусед прымусіў вырошчваць па новым метадзе, у гэтым годзе атрымалі неверагодны ўраджай.

У мяне на лецішчы няма нават маленечкага неапрацаванага кавалачка зямлі. Я не магу бачыць, як суседзі засейваюць травою газоны, а потым выходзяць з электрычнымі касілкамі і зудзяць. У мяне каса, і я люблю касіць траву так, як гэта рабіў мой бацька.

**— Калі азірнуцца назад, акцёр Гарбук задаволены тым, чаго дасягнуў за 70 гадоў?**

— Тым, чаго дасягнуў, — задаволены. Але роляў магло быць больш. Хаця, напэўна, такі адказ вы пачулі б ад любога акцёра, нават таго, які не сыходзіць з тэлеэкрана. І, напэўна, гэта правільна. Незадаволенасць сабою — спадарожнік акцёра, гэта як праклён прафесіі. Але, з другога боку, як толькі акцёр лічыць, што ўсё ўмее, — ён перастае існаваць як творца.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

Генадзь Гарбук і Міхаіл Пташук падчас здымак фільма "Знак бяды" (фота злева). Кадры з фільма.

